


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

28 чэрвеня 2002 года
№ 26 (375)
Выходзіць па пятніцах

ПАНОС Тэлетыдзень

**Навіны рэгіёна**

## Няма працы настаўнікам

**СМАРГОНЬ.** У новым навучальным годзе згодна з рашэннем Смаргонскага райвыканкома закрыюць некалькі школ. Як паведамілі ў аддзеле адукацыі, на базе Валэйкавіцкай базавай школы адкрыюць пачатковую, а Свірыдавіцкай – пачатковую школу-сад. У вёсцы Чухны з-за таго, што навучаецца малая колькасць дзяцей, закрыюць пачатковую школу.

Вучні са Снігянскай базавай школы з 1 верасня будуць вучыцца ў Сольскай сярэдняй школе, а ездзіць на заняткі на аўтобусе.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## У Валожыне – свята горада

**ВАЛОЖЫН.** 29 чэрвеня горад адзначыць 902-ю гадавіну з дня заснавання. Свята будзе доўжыцца з 9 гадзін раніцы да 2 гадзін ночы. У праграме прымуць удзел творчыя калектывы Валожына, Івянца, ансамблі з Ашмянскага і Маладзечанскага раёнаў, таксама з Украіны і "Беларускія Песняры" з Мінска.

Пройдзе выстава-продаж работ народных майстроў і ўмельцаў з Маладзечанскага і Валожынскага раёнаў. Адбудуцца спартыўныя мерапрыемствы.

**Ірына РАБУШКА.**

## Ці патрэбныя ў Астраўцы Купала і Колас?

**АСТРАВЕЦ.** Пяць гледачоў прыйшло на літаратурнае свята "І не змоўкнуць ніколі Купалы і Коласа словы".

Свята адбылося 23 чэрвеня ў раённым Доме культуры (РДК). Уваход быў бясплатны. Арганізатары – цэнтральная раённая бальніца і РДК.

Загадчыца раённага аддзела культуры **Данута Чарнушэвіч** сказала, што гэтае літаратурнае свята адбудзецца яшчэ раз. Пазней. У астраўчан ёсць шанс паслухаць вершы класікаў і ўбачыць інсцэніроўкі ўрыўкаў з п'ес Купалы "Раскіданае гняздо", "Паўлінка", "Тутэйшыя" і коласаўскай "Новай зямлі".

**Галіна ФРАНЦКЕВІЧ.**

## Яўген Наздраценка ў рэгіёне

**ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ.** 22 чэрвеня ў Вілейку прыязджаў міністр рыбнай прамысловасці Расіі **Яўген Наздраценка.**

Ён пабываў на магіле маці, якая жыла ў Вілейцы і пахаваная на гарадскіх могілках. Зайшоў і яе кватэру па вуліцы Талстога. У нядзелю Яўген Наздраценка гасцяваў у Мядзеле, дзе жыве яго адзіная родная сястра Зінаіда.

**Марыя МІКАЛАЕВА.**

## Збіў дваіх веласіпедыстаў

**СМАРГОНЬ.** 21 чэрвеня каля 23 гадзін на аўтадарозе Карані-Бялевічы вадзіцель белых "Жыгулёў" збіў дваіх веласіпедыстаў.

Адзін атрымаў страсенне мозга, другі – пералом абедзвюх ног. Вадзіцель праехаў метраў трыста, вярнуўся, паглядзеў, што веласіпедысты жывыя, сабраў асколкі разбітага шкла і паехаў. Работнікі ДАІ ўвялі аперацыю "Перахоп". Праверылі, што падобная машына ёсць у жыхара вёскі Асінаўшчызна, які пазбаўлены правоў за ваджэнне ў нецвярозым стане.

Апоўначы прыехалі ў Асінаўшчызну. Праз некалькі гадзін затрымалі мужчыну, які прызнаўся ў злачынстве.

**Тарэса КУМІШЧА.**



**Надвор'е на выхадныя**

Субота, 29 чэрвеня

**Мінск**
15°С (уначы)
24°С (удзень)



**Вільня**
10°С (уначы)
21°С (удзень)



Нядзеля, 30 чэрвеня

**Мінск**
11°С (уначы)
22°С (удзень)



**Вільня**
10°С (уначы)
21°С (удзень)



# Пасвячэнне ў кадэты

**ВІЛЕЙКА. Упэўнены, сённяшнія выхаванцы 47-й роты Мінскага суворавўскага ваеннага вучылішча цырымонію пасвячэння ў кадэты запомняць на ўсё жыццё. Хаця і праходзіла яна ў лесе, у самай што ні ёсць глыбінцы Вілейскага раёна.**

У далёкім ужо 1916 годзе ў некалькіх кіламетрах ад вёскі Заброддзе праходзіла лінія руска-германскага фронту. Ля самай жа вёскі размяшчаўся лазарэт №1 29 пяхотнай дывізіі 2-й рускай арміі. Гэта яе салдаты і афіцэры (у ліку першых было нямала беларусаў) цаной неймаверных ахвяр адцягнулі ад Парыжа нямецкія войскі, чым не толькі выратавалі французскую сталіцу, але і заслужылі вечную славу ў нашчадкаў. Вось чаму юныя выхаванцы Мінскага СВВ з хваляваннем прыйшлі да магіл прадзедаў-герояў, каб ля іх прамовіць клятву вернасці Айчыне і кадэцкаму брацтву.

Сярод арганізатараў пасвячэння ў кадэты варта назваць **Барыса Цітовіча.** Ён разам з жонкай **Валянцінай Пятроўнай** актыўна сеюць у душах мясцовых людзей, асабліва дзяцей, галоўныя чалавечыя дабрачыннасці, аднаўляюць гістарычныя "правалы" на мясцовым ландшафце. І нямала ўжо зрабілі ў гэтым.

Роўна праз год суворaўцы-кадэты будуць выбіраць: з каго "рабіць" жыццё. Большасць ужо намеціла свой далейшы шлях – ён у абаронцы Айчыны. Толькі і застаецца ім пажадаць мірнага неба.

**Віталь ПАШУК.**



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**Усё павінна быць у парадку. Апошнія прыгатаванні перад пасвячэннем 22 чэрвеня ля вёскі Заброддзе. У гэты дзень выхаванцаў Мінскага суворaўскага вучылішча пасвяцілі ў кадэты.**

## Калі паштовая скрыня – раскоша

**МАЛАДЗЕЧНА. У доме №11 па вуліцы Машэрава 16 кватэр. Паштовых скрыняў было столькі ж. Але раённы вузел паштовай сувязі (РВПС) памяняў паштовыя скрыні на новыя. Пасля "рэканструкцыі" іх стала ўдвая менш.**

В. а. намесніка начальніка раённага вузла паштовай сувязі (РВПС) **Жанна Дзмітрачонак:**

— Мы ставім за кошт РВПС паштовыя скрыні толькі тым, хто карыстаецца нашымі паслугамі, – выпісвае газеты ці часопісы. Усе астатнія могуць купіць ці зрабіць скрыню самі. Карэспандэнцыю тым, у каго няма паштовай скрыні, мы дастаўляем асабіста ў рукі. Таму, хто жадае ўстанавіць паштовую скрыню, раю звярнуцца ў сваё аддзяленне сувязі ці да паштальёна.

Жыхарка дома 11 па вуліцы Машэрава Валянціна Радкевіч, якая цяпер не выпісвае газеты і часопісы:

— Квіткі за камунальныя паслугі цяпер кідаюць у суседнія скрыні. Альбо мы самі тэлефануем у домакіраўніцтва, каб даведацца, колькі мы павінны заплаціць. Да прыкладу, павестку сыну ў армію прыслалі па месцы вучобы. Некаторыя жыльцы ўжо самаробныя скрыні павесілі.

**Ірына РАБУШКА.**




Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Не ва ўсякай кватэры дома №11 па вуліцы Машэрава ёсць паштовая скрыня. Але калі выпісаць газету, то раённы вузел паштовай сувязі ўстановіць скрыню за свой кошт.**

## Людзі ў пагонах адпачываюць у «Ластаўцы»

**АСТРАВЕЦ. Традыцыйна на Астравеччыне дзейнічаюць два летнікі – для дзяцей з аслабленым здароўем у Міхалішках і "Ластаўка" ў Лошы.**

У апошнім нязменным куратарам з'яўляецца старшыня райкома прафсаюза аграпрамысловага комплексу Яўген Строк. Ён зазначае, што сёлета ў "Ластаўцы" адпачне больш за 600 дзяцей. Пераважная большасць з іх – мясцовыя хлопчыкі і дзяўчынкі. У мінулыя гады сюды прыязджалі дзеці з раёнаў, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, але сёлета іх не будзе.

Актыўную дапамогу аказваюць мясцовыя памежнікі, пажарнікі і міліцыянеры. Яны праводзяць разнастайныя мерапрыемствы і заняткі.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

# Вечарына памяці Пятра Бітэля

**“Я веру ў заўтрашні, яснейшы дзень” – пад такой назвай, аднайменнай з вершам Пятра Бітэля, прайшла ў гарадской бібліятэцы імя М.Багдановіча вечарына-ўспамін, прысвечаная 90-годдзю з дня нараджэння гэтага пісьменніка, перакладчыка, настаўніка, святара.**

Гучалі вершы паэта, урыўкі з успамінаў яго і сяброў па нялёгкім, поўным трагедыі жыцці. Агляд яго творчасці, зроблены бібліятэкарам **Алай Цяляк**, яшчэ раз пераканаў прысутных у тым, якімі глыбокімі былі веды гэтага чалавека аб гісторыі сваёй Радзімы. Да прыродных здольнасцей, дадзеных Богам, якому ён шчыра служыў у праваслаўных храмах Беларусі, было заўсёднае імкненне вывучаць, даследаваць, працаваць.

Падарункам усім, хто ведаў творчасць паэта, і тым, хто пачуў аб ім упершыню, была сустрэча з дачкой **Алай Пятроўнай**. Прыемнай нечаканасцю былі ласкава прадастаўленыя сям'ёй запісы інтэрв'ю з пісьменнікам, якія гучалі ў свой час па рэспубліканскім радыё.



**БІТЭЛЬ Пятро (Пётр Іванавіч; 6 (19). 6. 1912, мяст. Радунь Лідскага пав. Віленскай губ., цяпер г.п. Радунь Воранаўскага раёна – 18.10.1991), беларускі паэт, перакладчык, краязнавец, мемуарыст. Вучыўся ў Барунскай і Віленскай настаўніцкіх семінарыях (1925-31), скончыў Мінскі педагагічны інстытут (1970). Да 1939 года працаваў у школах Нясвіжчыны, Стоўбцаўшчыны, Гродзеншчыны. У 1939-43 – на педагагічнай працы ў Валожыне. У часы акупацыі трымаў сувязь з партызанамі. У чэрвені 1944 года вывезены ў Германію. Па дарозе ўцёк, знайшоў прытулак у Польшчы. Пасля вызвалення мабілізаваны ў Чырвоную Армію, служыў да канца 1945. З 1946 працаваў настаўнікам у Валожынскім раёне. У 1947 годзе звольнены па несправядлівым абвінавачванні, стаў праваслаўным святаром у Докшыцах. У 1950-56 гадах рэпрэсіраваны, знаходзіўся ў папраўча-працоўных лагерах Сібіры і Казахстана. Апошнія гады жыў у Маладзечне.**

Аб сямейным радаводзе, які быў прадстаўлены ў партрэтах, напісаных у 20-я гады з натуры, расказала ўнучка Пятра Іванавіча **Тамара Кукель**, якая працуе настаўніцай у 5-й школе нашага горада. Яна прачытала верш свайго дзядулі “Унуку”, які можа быць яскравым запаветам усім беларусам.

*Любіць сваё – зусім не значыць*
*Чужое ганьбіць, адмаўляць.*
*Вось за чужым свайго не бачыць,*
*Не вывучаць, не шанаваць –*
*Злачынствам будзе без сумнення,*
*Бо ёсць такі закон жыцця:*
*Шануй чужое аж да пакланення,*
*Сваё любі да самазабыцця.*

Асобнай размовай было тое, як прабіваліся ў свет творы нашага земляка. Аб гэтым расказаў краязнаўца **Міхась Казлоўскі**. Ён быў адным з тых маладых сяброў-паслядоўнікаў, якія цікавіліся жыццём і творчасцю гэтай неардынарнай асобы. І вянцом павагі стаў 5 нумар альманаха “Куфэрак Віленшчыны”, які быў выпушчаны да юбілею Пятра Бітэля.

**Ларыса КАРЧЭЎСКАЯ.**

■ ПАМЯЦЬ

# Рыбчынцы сабраліся ў шосты раз

**ВІЛЕЙКА. На Сёмуху, 23 чэрвеня, жыхары вёскі Рыбчына ў шосты раз сабраліся на месцы сваіх былых сядзібаў, якія былі знесены падчас будаўніцтва Вілейскага вадасховішча.**

Самы вялікі на тэрыторыі рэспублікі штучны вадаём знаходзіцца ў нашым рэгіёне. Падчас яго ўтварэння не адна вёска і вёсачка лягла пад каўшом экскаватара. Людзям давалі грошы ў замен на іх хаты і гаспадарчыя пабудовы і прапаноўвалі ехаць жыць у іншае месца. Перасяленцаў гналі не стыхійныя бедствы і не вайна – яны падпарадкоўваліся вялікай ідэі сацыялістычнага будаўніцтва.

## Надвор'е свята не сапсавала

Рыбчына – вёска з двухсотгадовай гісторыяй. Перапіс 1897 года , які праводзіўся па ўсёй былой Расійскай Імперыі, гаворыць аб больш чым пяці сотнях жыхароў. Столькі ж людзей жыло і напачатку сямідзесятых, да таго часу, як у 1973 годзе вялізны катлаван быў заліты вадой.

На свята прыехалі ўсе, хто мог дайсці ці даехаць. Магчыма, не ўсе 117 двароў былі прадстаўлены жыхарамі ці іх нашчадкамі, але людзей было на добрае вяселле: два дзесяткі аўтамабіляў, каля сотні чалавек. Сённяшнія віляйчане, барысаўчане, жыхары Маладзечна, Мінска, людзі з бліжэйшых вёсак, з Лёзна, Масквы і яшчэ шмат адкуль – усе родам з Рыбчыны. Ніякавата прыглядаліся адзін да аднаго, наноў знаёміліся, не маглі пазнаць – а потым цалаваліся і ўпотай змахвалі слязу. Праз некаторы час прыехаў бацюшка з Вязыні – айцец Міхаіл. Гамана адразу пацішэла, і людзі пасунуліся паўкругам да крыжа. Па шэрагах разышліся свечкі, там-сям пстрыкнула запалка – пачалася памінальная. Потым паляцелі пырскі свянцонай вады – спачатку на крыж, на рыбчан, на памятны камень – своеасабліві помнік Рыбчыне. Потым бацюшка падышоў са сваім крыжам да людзей. Усе падумалі, што ён абыдзе толькі бліжэйшых, як гэта бывае на шматтысячных святах, і памкнуліся шчыльней, каб дакрануцца вуснамі да крыжа. Але бацюшка пачаў падыходзіць да кожнага, нікога не абмінаючы. Потым людзі па традыцыі пачалі рассціла́ць на зямлі абрусы: трэба памянуць памерлых, парадавацца жывым. Адна з рыбчанак расказала гісторыю пра тое, як у дзяцінстве яна з'ела ўсе цукеркі, што схавала маці. Потым спужалася, навыразала кавалачкаў бульбы і закруціла ў паперкі. Праз дзень да іх прыйшоў сваяк, і маці пачала частаваць яго гарбатай з цукеркамі. Той надкусіў адну, адклаў у бок, разгарнуў другую і сказаў гаспадыні: “Ты што, маці, здзекуешся з мяне?!”. Канцоўка гісторыі патанула ў агульным рогаце. Гаварылі пра тое, як бацькі выхоўвалі дзяцей у строгасці. Можа, таму большасць з іх дабілася поспехаў у жыцці: хто стаў старшынёй райвыканкома, хто бізнесменам, а хто і начальнікам ДАІ. На бяду, толькі людзі пачалі ўваходзіць у гутарку, зарадзіў спорны дождж. Ён прымусіў даставаць парасоны, але падчас бацюшкавай службы неба пасвятлела і выглянула сонца. Аднак такое надвор'е не сапсавала свята. Гукі баяна моцна прайшліся па імправізаваных сталах, і людзі, прыкрыўшыся ручніком ці парасонам, падскоквалі пад польку, весела спявалі. Толькі калі змоклі ўшчэнт, пачалі раз'язджацца.

Канешне, не ўсё атрымалася па сцэнарыю. Стыхійна ўсклалі кветкі, не было афіцыйнага адкрыцця помніка са сцягваннем пакрывала. Але ўсё роўна свята атрымалася вясёлае і добрае, месцамі спантаннае, але з усімі неабходнымі атрыбутамі. Яно і добра, што не было сцэнарнай паслядоўнасці: мы ж жывём не па раскладзе, а са сваімі эмоцыямі і пачуццямі, смехам і слязамі.

## Такога свята больш нідзе не знойдзеш

Аналаг свята, падобнага рыбчанскаму, цяжка знайсці дзе-небудзь яшчэ. Вёска не была скалечана вайной, яе не выпальваў Чарнобыль – усё адбылося ў часы мірнага будаўніцтва. Але людзям ад гэтага не лягчэй, і таму добры пачын віцебчанкі **Раісы Соніч** (яна расказала гісторыю пра цукеркі) спадабаўся ўсім рыбчанам. Гэта па яе ініцыятыве людзі шэсць год таму пачалі збірацца на беразе вадасховішча і памінаць сваю вёсачку. Разам са сваёй цёткай і памочніцай **Раісай Філістовіч** з Вязыні Раіса Пятроўна напярэдадні сёлетняга свята прыводзіла мясціну ў парадак. Жанчыны паставілі помнік, перанеслі бліжэй да яго крыж. Ведаючы пра гэта, хочацца яшчэ раз сказаць словы шчырай удзячнасці беларускім жанчынам, якія не толькі працягваюць жыццё, але і памятаюць пра яго.

**Аляксей ЧУБАТ.**

# Ёсць вуліцы цэнтральныя...

**МАЛАДЗЕЧНА. Трэба думаць, пад уражаннем і ад маладзечанскіх вуліц, па якіх хадзіў калісь навучэнец музычнага вучылішча, а цяпер знакаміты спявак і кампазітар Юрый Антонаў, нарадзілася папулярная песня. Так, вуліцы і вулачкі любога населенага пункта заслугоўваюць павагі і ўвагі. А яшчэ таго, каб мы ведалі “адкуль ёсць пайшлі” іх назвы.**

Менавіта такую задачу – расказаць маладзечанцам і гасцям горада аб назвах вуліц і пра людзей, імёны якіх яны носяць, – паставілі перад сабой супрацоўнікі занальнага дзяржархіва. І, як выказалася загадчыца аддзела па выкарыстанні і публікацыі дакументаў **Наталля Іванова**, пастараліся добрасумленна яе выканаць.

— За апошняе дзесяцігоддзе на карце Маладзечна з'явіліся дзесяткі новых назваў. Мы пастараліся не прапусціць ніводнай. Закранулі і вядомыя асобы – каб даць агульную карціну.

Назваць асабліва складанай гэтую работу нельга, але цяжкасцей хапала. Да прыкладу, ні ў музеях, ні ў бібліятэках супрацоўнікі архіва не змаглі адшукаць дастаткова звестак пра **Уладзіміра Германа**. Пра іншых жа іх, наадварот, хоць адбаўляй. Даводзілася выбіраць галоўнае. Усяго ж работа заняла сорак пяць старонак камп'ютэрнага набору.

На чарзе распрацоўка яшчэ аднаго матэрыялу – плана горада Маладзечна з поўным апісаннем, складзенага ў 1949 годзе. З яго можна даведацца, якія перспектывы чакалі горад, што ўдалося ажыццявіць, што не. І што галоўная тагачасная вуліца Маладзечна – Камуністычная – была не зусім прамой, а рабіла неймаверныя зігзагі і заканчвалася Камуністычным жа тупіком. Ну, акурат, як у жыцці!

**Іван МЁДАЎ.**

■ ПРЭМ'ЕРЫ

# «Прымакі» ў новым прачытанні

**МАЛАДЗЕЧНА. Калі б вы ведалі, як нараджаюцца спектаклі, то, безумоўна, перасталі б зайздросціць артыстам.**

Шматгадзінныя рэпетыцыі, затрымкі і без таго сціплых заробкаў; хваляванні: як прыме глядач тваю новую работу; хаджэнне з шапкай па мецэнатах – падайце хто колькі можа на дэкарацыі і касцюмы...

І ўсё ж прэм'ера ў Мінскім абласным драматычным тэатры адбудзецца 30 чэрвеня. Ёю стане спектакль “На другі дзень Сёмухі” паводле купалаўскіх “Прымакоў” у пастаноўцы дырэктара Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача **Юрыя Вуты**.

— “Прымакі” – гэта сцэнічная інсцэніроўка аднайменнай п'есы, і прымеркавана яна да юбілею песняроў – Янкі Купалы і Якуба Коласа. Тэксты Купалы засталіся, мы толькі “раскідалі” іх па персанажах. Ды і дзеі адбываюцца не ў адной, як раней, хаце, а ў дзвюх. Да ўсяго, у нас тут уведзены новы персанаж, ён называецца “чалавек ад тэатра, суфлёр”, які можа завярнуць дзею ў любы бок. А яшчэ мы карыстаемся пісаннем, ездрамі Іаана Златаустa, калі хочам падвесці рысу пад нейкімі чалавечымі якасцямі. Да прыкладу, што такое ёсць грэх, што такое ёсць пітво, ці трэба насалоджвацца грахом, які б ён ні быў...

**— Юрый Леанідавіч, “Прымакі” пісаліся ў пачатку мінулага стагоддзя, мы жывём у іншым часе, у іншым, можна сказаць, вымярэнні. Ці наклала гэта свой адбітак на Вашу работу?**

— Канешне, не гучыць тут народная музыка ў чыстым яе выглядзе. Яна больш фольк-мадэрновая, мелодыі апрацаваны пад рытмы, пад стыль жыцця XXI веку. Будуць чуцца “Палац”, “Беларускія Песняры”, джаз, блюз, рок...

**— “На другі дзень Сёмухі” будзе другім Вашым спектаклем у МАДТ. Паступова “акультурваеце” маладзечанскую сцэну? Ці як?**

— Хутчэй за ўсё, “ці як”. Чэсна скажу, я не напрошваўся сюды. Прапанаваў першы спектакль – ён пайшоў. “Прымакі” – даволі вядомы твор, і сцэнічную рэдакцыю меў у мностве варыянтаў. Што атрымалася, можна будзе ўжо ўбачыць на прэм'еры.

**Іван МЁДАЎ.**

# Фестываль джаза і песні

**МЯДЗЕЛ. У мінулую пятніцу ў Купе прайшоў першы фестываль джаза і песні «Нарачанскія хвалі». Прымалі ў ім удзел салісты і калектывы Дзяржаўнага канцэртнага аркестра пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. Яму пры адкрыцці фестывалю ўручылі карціну мядзельскага мастака Паўла Пятуніна і кош з рыбай.**

Канцэрт праходзіў на імправізаванай сцэне паблізу кафэ «Цеплаход». Гэта зусім блізка ад возера, і некаторыя гледачы наўпрост з пляжа і прыйшлі. Пасцяліўшы посцілкі ля сцэны, так і слухалі канцэрт. А складаўся ён з дзвюх частак. Першая — эстрадная, дзе спявалі салісты аркестра. Сярод іх **Ларыса Грыбалёва**, **Стэла**, **Наталля Тамела** і іншыя. Выступаў і заслужаны артыст Беларусі **Міхай Скорыкаў**. Ён, дарэчы, на Нарачы толькі ў другі раз і быў. А вось Ларыса Грыбалёва на курорце часцей бывае, і Нарач у яе атаясамліваецца з водпускам.

Пасля эстраднага канцэрта пачаўся джазавы. Міхаіл Фінберг расказаў, што падобных фестываляў, дзе іграюць джаз на адкрытых пляцоўках, у Еўропе хапае. Цяпер, з праўздзеннем «Нарачанскіх хваль», з'явіўся такі і ў Беларусі.

Удзельнікам аркестра спадабаўся Нарачанскі край, гледачы. А шмат каму надта запомнілася «Нарачанская мытня». Гэта пераапранутыя ў камуфляж культработнікі так сустракалі гасцей пры ўездзе ў раён: з перагароджанай дрэвам дарогай, машынай міліцыі і рознымі конкурсамі. У адным трэба было з бітона выліваць шчупака.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ У НАРКАТЫЧНЫМ ДУРМАНЕ

# Выйсце ёсць – турма, смерць, алкагалізм

**МАЛАДЗЕЧНА. Старым людзям цяпер цяжка жыць. Пенсія малая. Ледзь на прадукты хапае. Кожны дзень, кожны месяц зводзяць яны канцы з канцамі. Але нягледзячы на ўзрост, яны народ кемлівы. Асабліва жанчыны. Вось і наладжваюць яны свой бізнес. Што яшчэ рабіць на пенсіі?**

Бізнес гэты вельмі прыгожы: рознакаляровы, духмяны і вельмі дарагі. Продаж макавай саломкі – наркотыкаў.

Больш за ўсё гэты бізнес працвітае ў валожынскім, гарадоцкім і смаргонскім напрамках. Хаця наркаманаў вынаходцаў у сельскай мясцовасці звычайна няма. Вёска корміць нас не толькі хлебам. Гэта так званы ціхі фронт. Наркаманы заходзяць у хаты і пытаюцца, ці ёсць мак. Некаторыя пакупнікоў з хаты гоняць. Дасведчаныя "прадпрымальнікі" дастаюць тавар з-пад палы. Нават на зіму нарыхтоўваюць. Супрацоўнікі міліцыі калі-нікалі робяць рэйды па вёсках. Аглядаюць агароды, пашу. Мак вырошчваць забараняецца. Прабуюць штрафаваць такіх прадпрымальнікаў. Падчас рэйдаў бабулькі просяцца: "Сынкі, гэта ж для дзяцей і ўнукаў. Пірагоў к прыезду напячы". Штраф за вырошчванне маку складае ад 5 да 10 мінімальных заработных плат. За збыт макавай саломкі прадугледжана пазбаўленне волі ад 3 да 7 год, магчыма канфіскацыя маёмасці. Аператыўнікі ніяк ушчэміць не могуць, як 67-гадовую бабульку за краты пасадзіць. Альбо большы кавалак пенсіі забраць. Звычайна бабулькам наказваюць больш гэтым не займацца. Робяць папярэджванне. Яны ж працягваюць заганяць 200-грамовую шклянку саломкі па 5 долараў.


Фота IREX/ProMedia.

Наркотыкі і наркаманы ёсць і ў горадзе, і на сяле.

27 наркаманаў стаяць на ўліку. Старшы оперупаўнаважаны групы нораваў і незаконнага абарачэння наркотыкаў **Міхаіл Івашкевіч** гаворыць, што іх на самой справе ў 3-4 разы больш. Але ёсць тэндэнцыя да зніжэння.

Сярэдні ўзрост наркаманаў 30,6 года. Самы малады з 1981 года, самы стары – з 1964. Жывуць яны з гэтай хваробай не больш дзесяці гадоў.

Уцягваюць людзей у наркаманію іх знаёмыя ці сваякі. Упершыню чалавек спрабуе наркотыкі таму, што не хоча быць "белай" варонай сярод наркаманаў, з-за кахання, з гора, падчас дрэннага настрою, з мэтай здабычы грошай. Звычайна наркаманы не працуюць. Яны скупыя: не хочуць дзяліцца з "сябрамі" наркотыкамі, падчас ломкі не выручаюць. Адносіны з наркаманамі, якія ўцягваюць людзей у гэта, не падтрымліваюць.

...Маладзечанец падаўся на заробкі. Разам з ім працавалі наркаманы з Малдовы. За тыдзень яны "пасадзілі" мужчыну на іголку.

...18-гадовы хлопец напіўся гарэлкі. З раніцы хацелася пахмяліцца. Галава балела. Пайшоў да суседа-наркамана пазычыць грошай на бутэльку. Той і кажа: "Навошта грошы. Майго зелля паспрабуй".

...У госці прыехалі сваякі. Радасць сустрэчы. Смачны стол. Гасцінцы для гаспадара – наркотыкі. Ён яшчэ жыве. А сваякоў ужо няма.

Выйсцяў з сітуацыі, па словах М.Івашкевіча, тры: турма, смерць, алкагалізм. За рэдкім выпадкам – адыход у веру.

**Ірына РАБУШКА.**

## І шэсць мельхіёравых лыжак

МЯДЗЕЛ. Жыхар Купы залез у кватэру ў пасёлку і сцягнуў адтуль залатыя вырабы на суму звыш аднаго мільёна рублёў. Толькі незразумела, навошта да такой буйной здабычы яму спатрэбілася шэсць мельхіёравых лыжак?

## Магазін, што зоамузей

МЯДЗЕЛ. Самы арыгінальны тавар у райцэнтры можна знайсці ў гандлёвым доме «Сосны». Там ёсць у продажы чучала галавы дзіка і яго шкура. Галава ацэньваецца у 323 тысячы рублёў, а шкура – крышку больш за дзвесце тысяч.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## На пяцістах не спыняюцца

**АСТРАВЕЦ. Больш чым 500 новых тэлефонных абанентаў з'явілася з пачатку года ў Астравецкім раённым вузле электрасувязі. Гэтую лічбу паведаміў для "РГ" начальнік РВЭС Міхаіл Хіневіч.**

Акрамя гэтага, да канца года ў планах сувязістаў тэлефанізаваць зону Варнянскага сельсавета і вёскі Жарнелі, Ласі, Петраполь і іншыя.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

# Што палілі нашы продкі?

**Зусім хутка ў наш край прыйдзе Купальскае свята – старажытная беларуская народная традыцыя, якая бярэ пачатак яшчэ ў дахрысціянскія часы. А якое ж Купалле без вогнішча?**

На вялікі жаль, у апошні час у якасці паліва для вогнішча як на самадзейных мерапрыемствах, так і на арганізаваных святкаваннях, пачалі ў вялікай колькасці выкарыстоўваць аўтапакрышкі. Што з'яўляецца вельмі небяспечнай для нашага здароўя справай.

Мяркуйце самі: пры спальванні аўтапакрышак у паветра лятуць такія небяспечныя рэчывы, як цяжкія металы, вокіслы азоту, серы, чадны газ, дыяксіны. Дарэчы, апошнія добра раствараюцца ў тлушчы і кепска ў вадзе. Таму, раз трапіўшы ў арганізм, застаюцца там на ўсё жыццё, правакуючы ракавыя захворванні, паражэнне органаў дыхання і ЦНС. Асабліва небяспечна, што асноўны кантынгент купальскіх мерапрыемстваў – дзеці і падлеткі.

Хочацца нагадаць арганізатарамналыхозяных святаў, што спальванне аўтапакрышак у межах населеных пунктаў і ў месцах адпачынку парушае закону Рэспублікі Беларусь аб ахове атмасфернага паветра і можа пацягнуць адказнасць згодна з арт. 218 Кодэксу адміністрацыйных правапарушэнняў РБ. Такая "ўтылізацыя" каштоўнай другаснай сыравіны проста дзікунства. Наколькі я ведаю, з адыўшых свой век аўтапакрышак ужо навучыліся рабіць нафту. Акрамя таго, на месцах кастрышчаў колішняя расліннасць ужо ніколі не ўзновіцца ў сваім ранейшым выглядзе.


Ля купальскага вогнішча.
Фота IREX/ProMedia.

І яшчэ. Гэта добра, што мы маем магчымасць адзначыць Купалле. Гэта добра, што вяртаюцца народныя традыцыі. Дык давайце ж іх шанаваць! Няўжо нашы продкі ў старажытныя часы палілі менавіта аўтапакрышкі? Прынамсі, археолагі гэта не пацвярджаюць. Дык будзем вартымі сваіх продкаў!

**Алег БЯГАНСКІ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 20 чэрвеня | 27 чэрвеня |
|---|---|---|
| Долар | 1794,00 руб. | **1797,00** руб. |
| ЕЎРА | 1713,72 руб. | **1776,15** руб. |
| Злоты | 446,52 руб. | **448,97** руб. |
| Літ | 496,51 руб. | **514,50** руб. |
| Расійскі рубель | 57,07 руб. | **57,11** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1800 – 1820 руб. | **1800 – 1820** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 19.06 | 26.06 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | – | 9900-11700 |
| Сасіскі, 1 кг | – | 2900-4900 |
| Селядзец, 1 кг | – | 2300 |
| Рыс, 1 кг | 650-950 | 650-1000 |
| Грэчка, 1 кг | 530-590 | 530-580 |
| Цукар, 1 кг | 740-775 | 775 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 680-880 | 680 |
| Алей, 1 л | 1400-1950 | 1500-2020 |
| Маянэз, 200 г | 400 | 400-550 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1900 | 1900 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 600 | 600 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 600 | 600 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1200-1500 | 1100 |
| Капуста, 1 кг | 500-600 | 450-600 |
| Лімоны, 1 кг | 1800-1950 | 2000-2150 |
| Апельсіны, 1 кг | 1350-1500 | 1250-1500 |
| Агуркі, 1 кг | 600-900 | 400-500 |
| Памідоры, 1 кг | 1850-2200 | 1770-2100 |
| Чарэшня, 1 кг | 2000-2500 | 3000-3200 |
| Клубніцы, 1 кг | 1350-1800 | 1300-2000 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1900-2000 | 1600-1800 |
| Масла, 1 кг | 3600 | 3700 |
| Тварог, 1 кг | 1500 | 1400-1800 |
| Малако, 1,5 л | 500-600 | 500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1200-1300 | 1400 |
| Бульба, 1 вядро | 2700-3000 | 3400-4000 |
| Бульба маладая, 1 вядро | | 8000 |
| Клубніцы, 5-літровае вядро | 5000-6000 | 4500-7500 |
| Чарніцы, 5-літровае вядро | 8000 | 4000-4500 |
| Суніцы, 5-літровае вядро | 15000 | 14000 |
| Чорная парэчка, 5-літр. вядро | 5000-6000 | 4000-5500 |

■ СУВЯЗІ З ЗАМЕЖЖАМ

## Малдова завалодае Маладзечнам

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі раён здаўна сябруе з Малдовай. У прыватнасці, з Ніспарэнскім раёнам. У гэтым раённым цэнтры жыве 17 тысяч жыхароў. Ён суседнічае з Румыніяй.**

У асноўным гэта былі культурныя сувязі. Цяпер яны перайшлі ў канкрэтную эканамічную плоскасць. У Маладзечне працуе малдаўскае прадстаўніцтва акцыянернага таварыства "Дыяніс́імус".

Ужо было зроблена некалькі паставак кансерваванай прадукцыі. Асноўную стаўку малдаване робяць на свежую садавіну і агародніну. Узамен на беларускі лес, бульбу, сельгастэхніку. Напрыклад, іх цікавіць Смаргонскі завод па выпуску сельгастэхнікі.

Кіраўнік інспекцыі па падатках і зборах па Маладзечанскім раёне **Альберт Дабранскі**:

– Гэта будзе выгадна для абодвух бакоў. Малдаване маглі б пастаўляць больш прадукцыі. Але шмат праблем на ўкраінскай граніцы. Прычым афіцыйна іх быццам бы і няма. А як праедзеш праз Украіну, нічога не застаецца. А свежая садавіна і агародніна хутка псуюцца.

**Ірына РАБУШКА.**



# Прыйсці першым і атрымаць медыцынскую даведку

**МАЛАДЗЕЧНА. У выпускнікоў школ зараз гарачая пара. Трэба выбраць навучальную ўстанову. І прайсці медыцынскую камісію, каб атрымаць даведку. Гэты паход у паліклініку можна прыраўняць да сапраўднага экзамена.**

Тут важна прыйсці першым. Але прарваца да ўрача – гэта яшчэ не ўсё. Бо ён можа і не дазволіць паступаць у абраную ўстанову, калі ваша здароўе гэтаму не адпавядае. Як гаворыць намеснік галоўнага ўрача Маладзечанскага ГТМА па паліклінічнай рабоце Тамара СІЎЦЭВІЧ, чэргі атрымліваюцца з-за таго, што вучні самі не паклапаціліся ўзяць даведку раней. Дзіцяці складана зрабіць выбар, куды пайсці вучыцца. Таму цягнуць да апошняга. Зараз яны паспелі ўсе адначасова. Прыходзяць у паліклініку ўсёй сям'ёй. Таму кіраваць ці адрэгуляваць чаргу немагчыма.

Дзяцей аглядаюць тры падлеткавыя ўрачы. Часта ўзнікаюць канфліктныя сітуацыі, бо стан здароўя не дазваляе вучыцца ў той ці іншай навучальнай установе.

**Ірына РАБУШКА.**


Фота Ірыны РАБУШКІ.

25 чэрвеня. Ля падлеткавага кабінета ў маладзечанскай гарадской паліклініцы.

# Маленькая сям'я Красненскага прытулку

**МАЛАДЗЕЧНА. Красненскі дзіцячы сацыяльны прытулак ведаюць нямногія, але для 22 выхаванцаў ён стаў сапраўдным домам.**

**Створаны 2 гады таму ў памяшканні разбуранага дзіцячага садка льнозавода, сёння ён выглядае падамашняму ўтульна.**

**Менавіта тут дзеці чакаюць перамен: пазбаўлення бацькоўскіх правоў і адпраўлення ў інтэрнат або спробы бацькоў пачаць новае жыццё і вяртання ў сям'ю.**

**Па меркаванні работнікаў прытулку, апошні варыянт – ідэальны, вось толькі гэта здараецца рэдка: з 67 дзяцей, якія прайшлі за 2 гады, у сям'ю вярнулі 10. Пакуль суды і розныя камісіі вырашаюць, што рабіць, калі маці не патрэбнае роднае дзіця, у прытулку вяртаюць у нармальнае жыццё, дапамагаюць адаптавацца.**



Выхаванцы дзіцячага прытулку жывуць адзінай сям'ёй. Фота Вольгі ПІЛІПЕНКІ.

**Дзеці не забываюць пра красненскіх выхавальнікаў і пішуць ім паштоўкі. Вось урыўкі з некаторых:**

**Насця, 14 год, Клецкі інтэрнат:**

*"Прывітанне Ліля Леанідаўна. Піша Вам Насця. Мне тут добра і з усімі дзяўчатамі сяброўю. Але я сумую ад таго, што не пабачу сваю маці і сястру... Калі прыехалі сюды, нам далі новае адзенне, я нават здзівілася... Дзякуй Вам за тое, што зрабілі для мяне, навучылі ўсяму. Я Вас вельмі люблю!".*

**Віка, 12 год, інтэрнат у Смілавічах:**

*"... У мяне ўсё добра, але сумую па прытулку. Віншую Вас з Днём Святога Валянціна. І яшчэ, Лілія Леанідаўна, калі ласка, дашліце мне паштоўкі, каб я Вам пісала".*

**Марына, 12 год, Смілавічы:**

*"... Лілія Леанідаўна, я па Вас вельмі сумую і нават плачу ноччу. Я прывыкла да Вас і лічу сваёй матуляй. Калі ласка, прыязджайце да мяне і перадавайце ўсім прывітанне... Ніколі Вас не забуду! Да пабачэння, любыя, дарагія матулі".*

## Колькасць шлюбаў і разводаў у Маладзечанскім раёне

| Год | Шлюбаў | Разводаў |
|---|---|---|
| 1999 год | 355 | 164 |
| 2000 год | 300 | 197 |
| 2001 год | 316 | 145 |
| 2002 год (за 5 месяцаў) | 112 | 68 |



Фота Вольгі ПІЛІПЕНКІ

Пасля разводу застаецца не толькі штамп аб скасаванні шлюбу, але часта і дзеці, якія не патрэбныя бацькам.

# Асаблівы свет дзяцінства

Тут існуе дзве групы дзяцей: малодшая – (ад 3 да 6 год) і старэйшая (ад 7 да 15 год). У кожнай свае турботы і інтарэсы. Па словах дырэктара прытулку **Ліліі Заліўскай**, у гэтых дзяцей свой сусвет. Яны не бачылі лепшага і таму часта баяцца добрых адносінаў.

– Для іх дзіка, што тут не трэба хадзіць праз акно, як было дома. Заўсёды накормяць 5 разоў у дзень, дазволяць пагуляць з рознымі цацкамі, не прагоняць ноччу на вуліцу. Але ж цяжка многіх да чысціні прывучыць, таму што хатняя брыдота для іх – норма жыцця. Вось нядаўна, каб не мыць шкарпэткі, хлопцы спусцілі іх ва ўнітаз, потым прыйшлося тыдзень чысціць каналізацыю. Калі ў дзіцяці ёсць характар, цяжка перакanаць яго. Таму ўцёкі не здзіўляюць. Як яны гавораць, хочацца прыгод, – падкрэслівае яна.

Ніхто з дзяцей ніколі не забывае сваіх матуль. Нават калі яны прыходзяць да іх п'яныя і без падарункаў, бягуць і цалуюць, спадзяюцца, што вернуць дадому. А вось хлопчык **Дзіма** спачатку хаваўся ад маці пад стол. Потым, як сказалі, што пазбавяць бацькоўскіх правоў, тая апамяталася, знайшла работу. Толькі сына не змагла ў дзіцячы сад уладкаваць – старшыня Хоўхлаўскага сельсавета быў супраць.

Ёсць у кожнай групе і свае любімчыкі, але ўсе памятаюць словы дырэктара: "Мы адна сям'я. У нас няма вялікіх грошай і мы не крутыя. Таму трэба трымацца адзін аднаго і ніколі нікога не крыўдзіць".

Раказвае выхавальніца Людміла **ХМЯЛЬНІЦКАЯ**:

– Цяжкія дзеці. Шмат у іх негатыўнага ад бацькоў і ўвогуле, няма пачуцця сяброўства. Але кожны для нас як родны. Ніколі не забуду хлопца **Сашу**, які жыве ў Клецкім дзіцячым доме. Ён вязаў сурвэткі, маляваў, нікога не крыўдзіў. Па сённяшні час паштоўкі шле. Хоча вярнуцца сюды. Розныя ў іх лёсы. Цікава сачыць за імі вечарам, калі садзяцца ў кола і распавядаюць пра сваё жыццё.



3-гадовыя Аня і Карына расказалі, што іх мамы самыя лепшыя, але рэдка прыязджаюць да іх.

## ЛЁСЫ

Працуе з дзецьмі і сацыяльны педагог, які праводзіць тэсты. Падчас іх яны малююць сваё мінулае: бацькоў, бабуль і дзядуль, сабак і любімых сяброў. Але не кожны памятае свой дом так, як 12-гадовы **Дзіма**. Трапіў ён сюды з Валожынскага інтэрната і вельмі цяжка адаптаваўся. Яго маці знаходзіцца ў псіхбальніцы, а бацька ў турме. Бацькоўскіх правоў іх ужо пазбавілі. Дзіма ціхі, сумотны хлопец, якому падабаецца глядзець тэлевізар і, калі магчыма, не гаварыць пра мінулае.

Вылучаецца з усіх дзяцей і 15-гадовая **Вольга**, якая засталася тут з дазволу райвыканкома, каб закончыць школу.

– У гэтым годзе закончу 9 клас. Потым хачу на поварa-кандытара пайсці вучыцца. А што яшчэ рабіць, калі мамка кінула? – пытаецца Вольга.

Дамоў яна не хоча таму, што маці любіць выпіць, ды і выхавацелі падабаюцца. Жыла Вольга ў Палачанах, дзе ў 4 гады з сям'і пайшоў бацька. Ёсць у яе сястра **Наташа**, якая сядзіць у Гродненскай турме, брат **Дзіма** – у Мінскім інтэрнаце-размеркавальніку і **Іван** – у арміі – адзіны, каго чакае сястра і спадзяецца на сустрэчу. Памятае Вольга, што трапіла ў прытулак 9 студзеня 2001 года:

– На Новы год загадала жаданне, каб тут усё было добра. Яно споўнілася. А яшчэ мару аб сяброўскай сям'і і ніколі не буду піць гарэлку, як маці. Я ўжо не злуюся на яе, навучылася дараваць, – падзялілася "дачка прытулку".

Найбольш гаварлівы ў прытулку 7-гадовы **Андрэй**, якому тут не падабаецца.

– Дома з маці ездзіў, дзе хацеў, і бацька не перашкаджаў. Вось аднойчы паехалі з сябрам ноччу ў Маладзечна. Нас міліцыя забрала. Спачатку завезлі ў Радашкавічы, потым – сюды. Мамка ўжо два разы прыходзіла і расказала, што дома ўжо новы замок уставілі. Цяпер ноччу зачыняюцца, – успомніў Андрэй.

Тут кожны хоча дадому, дзе ёсць маці, хай нават і п'яная.

Працягвае **Лілія ЗАЛІЎСКАЯ**:

– Спачатку мы для іх – ворагі, якія прывучаюць да чысціні, сочаць за кожным рухам, не дазваляюць біцца і курыць. Але калі знойдзем у дзіцяці станоўчае, лягчэй, і яно адчыняе душу. Вось так даверыцца, а потым трэба расставацца. Гэта самае цяжкае, заўсёды шмат слёз.

## НОВАЯ СЯМ'Я

Стварaецца ў прытулку новая сям'я, дзе да матулі з сынам далучаецца прыёмная дачка, якую ўсе клічуць Анёлам.

14-гадовая **Насця** сёння жыве ў Клецкім інтэрнаце і чакае, пакуль сацыяльны педагог Красненскага прытулку **Ларыса МЛЫНАРЧЫК** зробіць дакументы на ўдачарэнне. Насця не верыла, што яе мара збываецца, таму што мінулае жыццё было напоўнена смуткам.

Калі Насценьцы было 11 гадоў, памёр бацька, і маці пачала піць, а потым памяняла 2-пакаёвую кватэру на аднапакаёвую і пакінула дачку бабулі. Там дзяўчынка займалася продажам агародніны. На зароблены грошы купляла танныя прадукты і ездзіла карміць маці. Калі прыехала 29 жніўня, каб падрыхтавацца да школы і аддаць макароны і алей, у кватэры гулялі сяброўкі маці. Для Насці не знайшлося месца, таму вырашылі выгнаць на вуліцу. На другі дзень зноў не пусцілі. Так і прыехала ў Краснае з прадуктамі. Праз тры месяцы маці пазбавілі бацькоўскіх правоў, а Насця пачала новае жыццё.

Расказвае Ларыса Млынарчык:

–Я ўжо працую сацыяльным педагогам 12 гадоў, але такога дзіцяці, як Насця, не бачыла. Яна маленькая бабулька, разумная не па гадах. Цікавіцца духоўнай літаратурай і заўсёды ўсё прымае з радасцю. Калі расказала ёй, што хутка забяру назаўсёды, не верыла і гаварыла, што не вартая ўвагі. Але мы з **Паўлам** (сын Ларысы – аўт.) яе вельмі любім і хочам дапамагчы ў жыцці.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

 



■ ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

# Маглі набіраць ачкі, але апынуліся на 13-м месцы

**25.06. Дынама (Бр) – Маладзечна-2000 2:1 (1:1).**

**Галы:** Байко (41), Кавальчук (92+); Сарасек (35).

**Суддзя** Георгій Вярбіцкі (Слонім) 1500 гледачоў.

**Акуліч** **Мігас (Грыхуцік, 90)**
**Міхалёў (к)**
**Тартоўскі** **Рапецкі**
**(Лявончык, 43)**
**Сарасек**
**Дараховіч**
**Сысой** **Дрозд (Макрыцкі, 51)**
**Муравейнікаў**
**Рубацкі**

**Папярэджанні** – Дараховіч, Лявончык.

**Лепшыя** – Сарасек (трэці раз у сезоне), Акуліч, Мігас (абодва – другі раз).

## Лік адкрылі, але перавагу не ўтрымалі

Уражанне ў прысутных на матчы засталося адназначным: маладзечанцы маглі выйграць, ну, а прайграваць не павінны былі. Магчыма, абарона гаспадароў выглядала крыху горш, чым звычайна. Відаць, яны ў нечым недаацанілі саперніка.

Нашы футбалісты правялі нямала небяспечных атак, у адной з якіх і адкрылі лік. Па цэнтры перад штрафной з мячом аказаўся **Акуліч**, прабіў у ніжні кут, галкіпер мяч парыраваў, але на дабіванні адзначыўся **Сарасек**. Хутка брэстаўчане правялі гол у адказ. Пасля верхавой барацьбы ў штрафной плошчы мяч адскочыў на кут варатарскай, дзе яго не здолеў затрымаць **Рубацкі**, і **Байко** падкараўліў гэту памылку варатара.

## Колькасць перайшла ў якасць

Другая палова сустрэчы прайшла з перавагай дынамаўцаў. Яны нанеслі 12 удараў па варотах (нашы толькі 3), але ніводнага не было ў створ аж но да таго часу, пакуль суддзя (дэбютаваў у вышэйшай лізе былы футбаліст розных каманд Гродзеншчыны **Георгій Вярбіцкі**) не дадаў звычайныя тры хвіліны. **Людас Румбуціс** правёў тактычную замену (ізноў дэбютант – нападаючы **Грыхуцік**), а гульцы, магчыма, ужо сталі чакаць фінальнага свістка. Між тым, **Кавальчук** падхапіў мяч непадалёку ад нашай штрафной, яго ніхто не сустракаў, і ён прабіў метраў з 23-х: трапіў дакладна ў дзявятку. Так і вырашыў лёс матча.

## З'ехаў Бычкоўскі

Засталося дабавіць нярадасную навіну. Перад гэтай сустрэчай 13 гульцоў "Маладзечна-2000" падалі заявы ў Беларускую федэрацыю футбола з просьбай прадаставіць ім статус свабодных агентаў, бо клуб не выконвае кантрактных абавязацельстваў. Напрыклад, **Бычкоўскі** ужо з'ехаў з каманды, адправіўся на прагляд у Расію, у "Дынама" (Д2) з Санкт-Пецярбурга.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Паўабаронца «Маладзечна-2000» Ігар Сарасек у аўторак забіў свой першы гол у вышэйшай лізе.**

## Каманда запрашае балельшчыкаў

2 ліпеня адбудзецца апошні матч першага круга на гарадскім стадыёне. "Маладзечна-2000" прымае віцебскі "Лакаматыў-96", аднаго з галоўных сапернікаў у барацьбе за права застацца сёлета ў вышэйшай лізе. Каманда запрашае балельшчыкаў на гэтую важную гульню.

Па адным білеце вартасцю **2500 рублёў** змогуць прайсці **двое дарослых**, па адным білеце вартасцю **1000 рублёў – двое дзяцей**.

Тарпеда-МАЗ – Дынама (Мн) 0:1, Нёман – Шахцёр 1:0, Славія – Тарпеда 3:2, Гомель – Днепр-Трансмаш 3:2, Белшына – Зорка-ВА-БДУ 1:1, БАТЭ – Лакаматыў-96 6:0.

1. Гомель ........................ 25
2. Нёман ......................... 25
3. БАТЭ .......................... 23
4. Тарпеда-МАЗ ................ 21
5. Дынама (Мн) ................ 18
6. Днепр-Трансмаш ........... 18
7. Тарпеда ........................ 17
8. Шахцёр ......................... 17
9. Белшына ....................... 17
10. Дынама (Бр) ................ 16
11. Зорка-ВА-БДУ ............... 9
12. Славія ........................... 5
13. **Маладзечна-2000 ........ 4**
14. Лакаматыў-96 ................ 3

Бамбардзір: Стрыпейкіс (Белшына) – 10.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ПЕРШАЯ ЛІГА

# Другое запар дамашняе паражэнне

**23.06. Смаргонь – Ліда 0:2 (0:1).**

Суддзя Сяргей Сахарэвіч (Гродна), 1500 гледачоў.

Галы: Ігнацік (20), Сафронаў (62).

Склад: Шляхавой, Іваноў, Стэльмах (Чарнуха, 80), Курак, Давідовіч, Максіменка, Дукса, Селіванаў (Карабінскі, 72), Кошаль (Шаблінскі, 52), Шамшорык, Шпакоўскі.

Услед за мастоўскім "Нёманам" пакрыўдзілі смаргонцаў на выездзе і лідчане. Яны глядзеліся ў справаздачным матчы лепш за гаспадароў, былі больш хуткімі, мабільнымі, часцей і небяспечней атакавалі. Адчувалася, што ў плане згуляннасці маюць перавагу. Забівалі пасля флангавых падач, карыстаючыся няўвішнасцю абаронцаў. "Смаргонь" таксама імкнулася ствараць вастрыню наперадзе, але сёлета працаўнікі ўжо не тыя, якія былі ў мінулыя гады: так проста падабрацца да іх варотаў нельга.

10. Камунальнік ............... 15
11. Днепр-ДЮСШ-1 ........ 14
12. **Смаргонь ..................... 11**
13. Нёман ........................ 10
14. Бяроза .......................... 9
15. Дынама-Юні .............. 7
16. Асіповічы ..................... 6

Бамбардзір: Кузьмянок (Дарыда) – 10 галоў.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ДРУГАЯ ЛІГА

# На полі – Галубко і Лукін

23.06 Забудова – Старыя Дарогі 3:0 (0:0).

Галы: Салаўёў (73), Мірановіч (78), Лукін (91+).

Склад: Мядзведзеў, Івашкевіч, Цай, Кандраценя, Мартынаў (Галубко, 55), Ал. Канапелька, Савіцкі, Відрук, Байлукоў, Салаўёў (Лукін, 82), Мірановіч.

Выдалены Галубко на 85-й хвіліне.

Пераломным у сустрэчы стаў першы гол. Ён нарадзіўся на правым фланзе атакі, дзе **Галубко** ў час аддаў перадачу забягаўшаму **Канапельку**, той прастрэліў уздоўж варот, і на далёкай штанзе галавой згуляў **Салаўёў**. Гэты нападаючы стаў саўтарам другога гола: прайшоўшы па левым фланзе, ён прастрэліў у напрамку **Мірановіча**, які дасціпна падставіў нагу пад мяч у барацьбе з абаронцам. Калі ішоў дададзены арбітрам час, **Лукін** застаўся непрыкрытым ля чужой штрафной, атрымаў мяч і тэхнічна рэалізаваў выхад сам-насам з галкіперам.

З'явіліся ў складзе былыя знаёмыя варатар **Андрэй Канапелька** (1971), нападаючы **Андрэй Мірановіч** (1980), а таксама паўабаронца **Артур Марцінчык** (1982).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ

# Няхай жа фінал будзе цікавым!

**Зборныя, што на працягу мундзіаля сенсацыйна перамагалі фаварытаў, рабілі сваю асноўную стаўку менавіта на матчы плэй-оф, і ў далейшым выглядалі як фізічна, так і маральна выхалашчанымі.**

І ўсё ж чэмпіянат свету такое вялізнае выпрабаванне, да галоўнага, фінальнага матча ў якім нельга дайсці на "халяву". У ім сустрэнуцца безумоўныя фаварыты – бразільцы і адзіная еўрапейская каманда, здолеўшая нешта супрацьпаставіць наступу іншых кантынентаў – немцы. Статыстычная падаплёка гэтага фіналу проста грандыёзная. У 16-ці прайшоўшых мундзіалях Бразілія заўсёды прымала ўдзел, а Германія адсутнічала толькі адзін раз. У 13 пасляваенных фінальных матчах нейкай адной з гэтых каманд не было ўсяго адночы. Тым не менш яны між сабою на чэмпіянатах ніколі не сустракаліся.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

# Мінская вобласць – мацнейшая ў краіне

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні тут прайшоў юнацкі чэмпіянат краіны па гарадках.**

У малодшай групе (1988 года нараджэння і маладзейшыя) усю дыстанцыю ў 40 фігур прайшлі 19 чалавек. Тройка прызёраў: 1. **Сяргей Міхейчык** (Жодзіна). 2. **Марат Ралавец** (Валожын). 3. **Дзяніс Карней** (Бярозаўка). У камандных спаборніцтвах было шэсць калектываў. Фінальны матч выйгралі прадстаўнікі Мінскай вобласці (за іх выступалі Кулак і Філістовіч) у Бярозаўкі. Сустрэчу за 3 месца літаральна вырвалі па булітах пасля нічыёй валожынцы ў брэстаўчан. Адзначым карпатлівую працу ў Валожыне трэнера **Валерыя Шведа**.

Старэйшая група (1984-87 г.н.) сабрала 16 удзельнікаў. Тут ужо гаспадары нікому не саступілі: 1. **Сяргей Сергіевіч**. 2. **Аркадзь Жызнеўскі**. 3. **Уладзімір Пупко**. Тры каманды размясціліся наступным чынам: 1. Мінская вобласць (у складзе былі маладзечанцы). 2. Бярозаўка. 3. Маладзечна.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Табло

■ АКРАБАТЫКА

ВІЛЕЙКА. 17-19 чэрвеня прайшлі міжнародныя спаборніцтвы па акрабатыцы. Прыязджалі калектывы з літоўскага Вісагінаса, расійскага Калінінграда, Мінска, Брэста. Удзельнічалі каля сямідзесяці юнакоў і дзяўчат ад 9 да 18 гадоў.

Былі прадстаўлены ўсе віды акрабатычных дысцыплін. Сярод гаспадароў вызначыліся першымі месцамі **Кацярына Чабрыцкая** і **Аляксей Смялкоў** (змешаная пара), **Уладзімір Пелачуб**, **Сяргей Жаўняровіч**, **Сяргей Хасанаў**, **Уладзімір Падбярэзскі** (чацвёрка), **Павел Сільвановіч** (акрабатычныя скачкі). Другое месца ў мужчынскай пары ў **Яўгена Чарнеўскага** і **Вадзіма Чуковіча**. У камандным заліку гаспадары першынстваваліі па відах, які выконваюцца на дыванe, і саступілі толькі літоўцам у скачках па дарожцы.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ СТАТЫСТЫКА

Для аматараў статыстыкі прыводзім склад смаргонцаў у матчы ў Мікашэвічах:

19.06. Граніт (Мікашэвічы) – Смаргонь 2:0 (1:0).

Смаргонь: Шляхавой, Іваноў, Селіванаў, Курак, Давідовіч, Максіменка (Кошаль, 71), Дукса, Стэльмах, Дзігілевіч (Сілін, 46), Шамшорык, Шаблінскі (Шпакоўскі, 62).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ВЕЛАСПОРТ

Маладзечанская ДЮСШ (трэнер **Міхаіл Салуянаў**) папярэдняшаму паставіла кандыдатаў у нацыянальную зборную краіны. Зараз у рэспубліканскіх спісах значацца **Юлія Норка** (1983 года нараджэння, вучыцца ў АФВіС), **Аляксей Лобач** (1985) і **Святлана Лебедзева** (1986).

Між тым становішча ў веласіпедыстаў незайздроснае. Іх від спорту тэхнічны, патрабуе ў адрозненне ад іншых відаў значна большых выдаткаў. Спаборніцтвы ў краіне праводзяцца рэгулярна, але паўдзельнічаць у іх на сапраўднай, "баявой" тэхніцы не даводзіцца. Хранічна не хапае запчастак, не кажучы ўжо пра прафесійныя веласіпеды. Рэдка бачаць спартсменаў і ў родным горадзе, бадай, толькі падчас традыцыйнай гонкі, якая праходзіць у сярэдзіне ліпеня. Ды яшчэ сёлета аднойчы ў перапынку футбольнага матча на гарадскім стадыёне юныя веласіпедысты паказалі гледачам, як валодаюць майстэрствам гонкі на выбыванне.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ДУБЛЬ

24.06 Дынама (Брэст, дубль) – Маладзечна-2000 (дубль) 1:0.

Каманда ў 11 гульнях набрала 5 ачкоў і па-ранейшаму знаходзіцца на апошнім, 14-м месцы. У "Белшыны", якая займае 13-ы радок, 9 ачкоў.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**На гэтым тыдні гуляюць**

28-30.06. Чэмпіянат краіны па гарадках сярод дарослых у асабістым раздзеле. Маладзечна, гарадошны стадыён, кожны дзень пачатак з 10-00.

29.06. Днепр-ДЮСШ-1 (Рагачоў) – Смаргонь.

29.06. РВАР (Мінск) – Забудова.

+1=3-4 3-9. Летась 0:0 дома і 0:3 на выездзе.

01.07. 18-00 (дублі) Маладзечна-2000 – Лакаматыў-96.

+1=0-1 2-2. Летась 1:0 (Антановіч) дома і 1:2 (Вільтоўскі) на выездзе.

02.07. 18-00 Маладзечна-2000 – Лакаматыў-96 (Віцебск).

+4=3-11 15-29. Летась 0:1 і 1:1 (Міхалёў).

03.07. Камунальнік (Слонім) – Смаргонь.

 

